Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 100.000 м.



# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 150.000 мк., сярод тэксту 120.000 м. і на 4 стр. 100.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 3 (24). Вільня, Нядзеля, 6-га студзеня 1924 г. Год II.

## Паварот да аутанамізму.

Людзі, якія вырасьлі на нашай Зямлі, якія прадстаўляюць косьць з косьці і кроў з крыві тутэйшага народу, нават губляючы сваё нацыянальнае аблічча і пераймаючы чужацкую мову не перастаюць пачуваць сябе *сынамі Краю*.

Ведама, такое пачуцьцё сыноўства аднолька да Беларускае Зямлі даступна толькі тым, хто, пераходзячы да чужое нацыянальнасьці, не загубіў сваей Чалавечай Душы. Яно даступна было Міцкевічам, Чачотам, Манюшкам ды асабліва ярка ўасаблялася ў так блізкай і роднай нам пастаці „Лірніка Вяскавага“—Сыракомлі. І пачуцьцё гэтае ніколі не занікала зусім у лепшае часткі „тутэйшага“ польскага грамадзянства, зьяўляючыся ў нашы дні асновай цэлага палітычнага кірунку так-званых „*краёўцаў*“.

Аднак, з таго самага дня, як благое памяці кайзэр Вільгэльм II абвесьціў незалежнасьць Польшчы, — нацыяналістычны шал агарнуў чуць ня ўсіх тутэйшых палякоў. Усе вочы ў дзень і ўначы бачылі *міраж* вялікае і магутнае Рэчыпаспалітае — такой, аб якой лятуцелі пакаленьні байцоў за яе незалежнасьць: Польшча рысавалася ім, як зьдзейсьненьне вялікага трайнога ідэалу Францускае Рэвалюцыі—*Волі, Роўнасьці і Брацтва* ўсіх людзей і народаў у межах уваскросшае дзяржавы.

Але ўжо першыя крокі ўваскрашонай воляй нямецкага імпэратара Польшчы разьвеялі лятуценьні лепшых і больш дальназоркіх прадстаўнікоў тутэйшага польскага грамадзянства. *Рэальнасьць* аказалася зусім *непадобнай да ідэалу*. І вось, пад той час, як Студніцкія кідаюцца на шыю польскаму жандару, які арыштоўвае іх і цяжкой рукой сваей бярэ іх за каўнер,—Шафнаглі становяцца ў рады беларускіх працаўнікоў, а Ромэры, скідаючы з сябе легіянэрскі мундзір, ідуць будаваць незалежную Літву.

Але Шафнаглі і Ромэры — гэта адзінкі. Большасьць—гэта вялікшыя ці меншыя Студніцкія. І гэта большасьць „owczym pędem“ імкнецца да Варшавы, заклікаючы розных галіцкіх біюракратаў „гаспадарыць і валадзець намі“. Асабліва запанаваў гэты „owczy pęd“ у часе так-званага „віленскага сойму“, дзе знайшоўся, здаецца, адзін толькі чалавек, Стэфан Міцкевіч, аднайменьнік вялікага песьняра нашае Зямлі, які меў адвагу зажадаць самастойнасьці для „Сярэдняе Літвы“. Нават тутэйшыя польскія сацыялісты, называўшыя перш сябе партыяй „Беларусі і Літвы“, ператварыліся ў „акругную арганізацыю“ П. П. С., выракліся свайго „краёвага“ становішча і галасавалі за „wcielenie“ Віленшчыны да Польшчы. „Да Варшавы!“—гэтае імкненьне, як піша „Słowo“, „было гэткае популярнае ў Вільні ў студні і лютым 1922 году, што адступленьне ад яго, ці нават крытычная ўвагі аб ім у вачах шмат каго з горача чуючых віленцаў раўнялася чуць што не нацыянальнай здрадзе“.

„Віленскі Сойм“, зложаны выключна з палякоў, бо беларусы, літвіны і жыды адмовіліся прыймаць у ім учасьце, — пастанавіў тое, на што і быў склікан тэй вайсковай сілай, што падыктатарску гаспадарыла ў нашым краю: пастанавіў „wcielenie do Polski“, напярод зракаючыся ўсякае думкі аб краёвай аўтаноміі. Гэтая агаворка чуць не папсавала ўсей справы „wcielenia“ ў вачох Антанты, якая і слухаць не хацела аб такой разьвязцы віленскага пытаньня. Але ўканцы канцоў усё ўладзілася, і тая-ж Антанта аканчальна прызнала ўсходнія межы Польшчы.

Уся Заходняя Беларусь — 22 беларускія паветы Віленшчыны, Горадзеншчыны і Заходняе Меншчыны—апынуліся ў межах Польшчы. Але гэты факт ня толькі не аслабіў імкненьня тутэйшае беларускае большасьці *быць гаспадарамі на сваей зямлі*, а ўзмацаваў яго і даў яму конкрэтнае выражэньне ў дамаганьні *аўтаноміі Заходняе Беларусі*, якое ўвайшло, як галоўны пункт, у беларускую выбарную праграму, ды было прынята польскай партыяй „Wyzwolenie“. А той факт, што перамога на выбарах у Заходняй Беларусі дасталася двум сьпіскам: беларускаму і вызваленскаму, найлепш сьведчыць, як горача падтрымлівае беларуская маса дамаганьне аўтаноміі.

Прайшлі два гады ад часу „wcielenia“ нашае краіны да Польшчы. Цэнтралістычныя эндэцкія ідэалы зьдзейсьніліся ў поўнай меры. Край залілі наездныя з Варшавы, з Галічыны, з Пазнаншчыны людзі, займаючы ўсе ўрадовыя становішчы, школы, гміны. Уся паліцыя, якая павінна бараніць жыцьцё і маемасьць насяленьня, скомплектавана з людзей, незнаёмых ані з гэтым краем, ані з насяленьнем, да якога, зусім зразумела, адносяцца, як да чужынцаў, прыслухаючых „запраўднаму „пану“—польскаму народу.—А вынікі ўсяе гэткае гаспадаркі?

Кожын, хто прыглядаецца да нашага жыцьця ў межах Польскае дзяржавы, ці хаця чытае акуратна газэты, ведае дужа добра, якія вынікі выклікае ў нас сыстэма адміністрацыйнага цэнтралізму і гвалтоўная палянізацыя Заходняе Беларусі. І ня дзіва, што беларускія паслы, калі п. Тугут вёў з імі перагаворы аб падтрымманьні ягонага ўраду, паставілі яму сярод іншых варункаў дамаганьне *аўтаноміі Заходняе Беларусі з соймам у Вільні.*

Эндэцкая газэта „Dziennik Wileński“ назвала гэтае дамаганьне ляючым словам „bezczelność“. Ад Обстаў нічога іншага і спадзявацца нельга: Обсты на тое і кідаюць сваю Нямецкую Бацькаўшчыну, каб уліваць яд нацыянальнае ненавісьці ў душу польскага народу і гэтак вясьці яго да пагібелі.—Дык тым больш характэрна выступленьне другое віленскае польскае газэты „Słowo“, органу абшарнікаў, якім, відаць, наездныя адміністратары так сама дадзелі, як і беларусам. „Słowo“ ў № 2 з 3 студня г. г. выступае ні больш і ня менш, як з дамаганьнем *аўтаноміі* для нашых „Kresów“! Чытаем там у перадавой стацьці гэткія заявы:

„Мы пераканаи, што гэнае „пракрустава ложа“ цэнтралізацыі, якая зьяўляецца адным з чысленых абсурдаў нашага дзяржаўнага ладу, утрудняе працу нашае адміністрацыі, а часамі паралізуе яе добрыя жаданьні. Цяпер нават тыя самыя віленцы, што ў 1922 годзе з агнём увачку крычалі: *далоў аўтаномію*! — пачынаюць памалу гэта разумець...“

Мы асабліва адзначаем гэту заяву *польскае* газэты, бо калі і тутэйшыя палякі незадаволены варшаўскімі палітычнымі верхаводамі, дык хіба толькі Обсты могуць наракаць на „bezczelność“ беларусаў, калі мы дамагаемся аўтаноміі для нашага Краю. Дый гэта сьведчыць бязсумліўна, што пытаньне аб аўтаноміі Заходняе Беларусі — гэта ня толькі выбарны кліч, але і жыцьцёвая патрэба, якую не адны толькі мы адчуваем. А калі так, дык беларускае грамадзянства павінна дужа сурёзна арганізовываць свае сілы, бо раней ці пазьней яно-ткі *станецца гаспадаром на сваей зямлі*!



## Шосты год Р.С.Ф.С.Р.—С.С.Р.Р. *)

### Пасьпехі на міжнародным полі.

У выніку ўсіх гэтых пасьпехаў на ўнутраным полі: стварэньнем дасканалай арміі, сталай валюты, адміністратыўна-палітычнай арганізацыі і нацыянальнага міру паміж народамі Краю,—Вялікі Саюз Рэспублікаў, зразумела, зрабіўся ня толькі вялікай сілы і гучнасьці рэальным і самастойным „інструмэнтам“, як кажуць, у „канцэрце эўрапэйскіх дзяржаў“, але і аднэй з запраўдных вялікіх дзяржаваў, якія толькі могуць пазволіць сабе весьці самастойную сусьветную палітыку.

Як ведама, цяпер такіх сусьветных дзяржаваў, пасьля выбыцьця Японіі з іх ліку, — толькі чатыры: Амэрыка, Англія, Францыя (пакуль што) і „С.С.Р.Р.“.

Нават яскрава варожыя апошняй польскія газэты, як „Kur. Polski“, павінны былі прызнаць, што „толькі Англія і Радавыя Рэспублікі вядуць дапраўды сусьветную палітыку“...

Каб ацаніць надзежна гэты вялізарнай важнасьці факт, трэба толькі ўспомніць тыя часы, вельмі нядаўныя,—калі ўся польская прэса цьвердзіла, „że Rosji już niema“, заяўляючы, што Польшча ўжо на вечныя часы заняла яе месца... Апошні год зусім выразна ўжо варочае „Расею“ на яе даваеннае месца, амаль не закончыўшы тое, што пачалося на Лёзанскай конфэрэнцыі...

З вядомай неабмыльнасьцю сваіх палітычных інтуіцыяў першая зразумела гэта, як ведама, Англія, якая ў асобе Лёйд-Джоржа і лідэраў Партыі Працы выразна заяўляла аб гэтым яшчэ тады, калі гэта здавалася зусім яшчэ неабаснованым.

Вельмі цікава,—і гэта так заўсёды бывае, калі пачаўся ўжо запраўды няўхільны працэс узросту моцнага самастойнага арганізму,—што з кожнага крызісу С.С.Р.Р. выходзіць ўзмацнеўшым. Так гэта было ў выпадку вядомага майскага канфлікту з Англіяй, пасьля якога нават варожая консэрватыўная партыя прыйшла да пераканаyньня аб неабходнасьці сталых упарадкаваных зносінаў з Радавымі Рэспублікамі—дзеля ўласных інтарэсаў Англіі.

І ў жніўні леташняга году адзін з відных яе лідэраў-прамыслоўцаў падаў прэм‘еру запіску, у якой дамагаўся актыўнай крэдытнай дапамогі С.С.Р.Р., як аднаго з самых рашучых спосабаў барацьбы... з бічом ангельскага Краю—страшэнным безрабоцьцем...

І гэтую зусім рэальную прапазыцыю дзелавога камэрсанта хутка прызналі ў Англіі. І якраз у леташнім годзе, у першы раз за ўсе тры гады зносінаў з Вялікай Усходняй Фэдэрацыяй Англія пачала аказываць С.С.Р.Р. вэксэльны крэдыт... Напр., у вельмі

*) Першая частка была зьмешчана у сканфіскаваным навагоднім нумары.

З прыемнасьцю адзначаем, што жыдоўская трупа „Паласа“ выказала шчырае жаданьне пайсьці беларусам на спатканьне і дала прынцыповую згоду на прадстаўленьне час ад часу тэатру пад беларускія спэктаклі.

Наступае паседжаньне Рады Драматычнае Майстроўні, на якім будзе разглядацца канчальная рэдакцыя статуту Таварыства, адбудзецца ў аўторак, 8-га студня, а 8 гадзіне ў вечары ў Беларускай Гімназіі (Бібліатэка). Пажадана прысутнасьць наагул сяброў Таварыства.

5-га студня прыбыў новы Дырэктар Віленскае Беларускае Гімназіі, грам. Радаслаў Астроўскі. Гэтымі днямі ён распачне ўжо працу на кіраўніцтву гімназіі.

У Празе Чэскай сярод беларускіх студэнтаў утварылася таварыства Прыяцеляў Беларускае Школы, мэта якога: матар'яльная дапамога беларускім школам на Бацькаўшчыне, асабліва ў Заходняй Беларусі, дзеля чаго зьвярнуліся да Ц.Б.Ш. Рады з прозьбай даць інфармацыі аб усіх істнуючых беларускіх школах, аб іх матар'яльным становішчы і якой дапамогай і ад каго тая ці іншая школа карыстаецца.

У Празе па ініцыятыве Беларускай Народнай Рады ўтвараецца Беларускае Выдавецкае Таварыства. У першую чаргу будуць друкавацца падручнікі для школаў усіх тыпаў.

Згодна з § 34 статуту Беларускага М.-Д.Г. 10-га гэтага студня, а 6 гадзіне ў памешканьні Беларускага Грамадзянскага Сабраньня (Віленская 12—1) адбудзецца аканчальны сход сяброў гуртка. Заслуханы будуць даклады прэзыдыуму гуртка і распараджэньне Міністэрства Унутраных Спраў і Камісара ўрада м. Вільні.

10-га студня, а 7 гадзіне ўвечары адбудзецца сход Рады Старшынь Беларускага Грамадзянскага Сабраньня. На навестцы дня: 1) справаздача прэзудыуму, 2) справаздача рэвізыйнае камісіі, 3) аб сяброўскіх складках, 4) аб памешканьні, 5) аб патэнце на буфэт і 6) бягучыя справы. Прысутнасьць усіх старшыняў абавязкова.

На 18-га студня гэтага году ў Горадзенскім Акружным Судзе будзе разглядацца справа М. Якімовіча. Бараніць будзе прысяжны адвакат С. Міцкевіч.

Саюз гандлёва-прамысловых служачых (Віленская 4) просіць безработнага Кузьму Крука зайсьці ў Саюз, дзе для яго ёсьць праца.

## Весткі з вёскі.

**М. Лебедзева**, Вялейскага павету.

У нашым мястэчку, дзякуючы стараньням жыхароў беларусаў у самым канцы 1922 г. была адчынена ня толькі беларуская школа, але нават удалося адваяваць пад яе невялічкі куток школьнага будынку. Летась было 60 вучняў, а сёлета 85 пры 5 аддзелах і ў дадатак на аднаго настаўніка. Цяжкая праца, ды яшчэ ў кутку з адным вакном з такой кучай дзяцей! Але настаўнік добра спраўляўся і спраўляецца з сваім заданьнем.

Але нашы беларускія школкі—гэта бяльмо на панскім воку. Знаходзяцца і дахтары—паны і паўпанкі. Настаўнікі szkoły powszechnej polskiej падаюць скаргі школьнаму інспэктару з пажаданьнямі, каб беларусаў выпіхнуць як-небудзь са школьнага будынку, „бо надта з-за іх цесна“. Інспэктар прыслаў загад (але чамусьці толькі слоўны) пану кіраўніку польскае школы, каб апошні сабраў сход бацькоў вучняў-беларусаў і запрапанаваў ім згодзіцца, каб абедзьве школкі і беларуская і польская аб'ядналіся ў адну польскую, ў каторай беларуская мова будзе выкладацца як прадмет некалькі гадзінаў у тыдзень. Калі ўсе на гэта ня згодзяцца, дык тады, каб беларусы пашукалі сабе пад сваю школку прыватнага будынку на ўласны кошт. На сход прышлі і тыя беларусы, каторыя лічаць сябе палякамі і дзеці якіх ходзяць ў польскую школку.

І вось бяда для пана інспэктара і пана кіраўніка, што нашы мужычкі не такія дурныя, за якіх мусіць яны іх лічаць. Адразу спазналі, што згадзіцца на аб'яднаньне школ ў адну польскую—гэта падпісаць сьмяротны прыгавор сваей роднай школцы і ўсе, як адзін, заявілі, што яны ніколі на гэта ня згодзяцца, пакуль гэта ад іх залежа. Што-ж датычыць школьнага будынку, то ўсе так сама заявілі, што яны маюць такое-ж права карыстацца гэтым будынкам, як і палякі, бо будынак гэты адбудаваны іх дзядамі і бацькамі на ўласны кошт. Сход вынес так-жа пажаданьне павялічыць школьны будынак на кошт гміны.

Такія пастановы надта не ўспадабаліся п. кіраўніку польскае школы, што ён нават адмовіўся пісаць пратакол, заявіўшы, што надта цяпер ня мае часу і што пратакол напіша ў другі раз і ізноў зьбярэ сход, каб падпісаць яго.

Нявядома, ці гэтым справа і кончыцца, ці пан кіраўнік з інспэктарам прыдумаюць яшчэ штосьці пахітрэй. Што-б яны там ня думалі, але мы, беларусы, будзем моцна бараніць сваё правы на родную школку, а разам з ёй і надзею на лепшую будучыну.

**Тутэйшы.**

# Дапісы.

## Беларусы у Латвіі.

### Паездкі з кіно.

Люцынская Беларуская Гімназія купіла кіно, з якім Дырэктар Гімназіі, гр. В. Езавітаў, ужо зрабіў некалькі паездак па вёсках.

Кіно мае сваю ўласную невялічкую дынама-машыну, якая дае добры сьвет, з якім магчыма дэманстраваць у кожнай клясе.

Некаторыя вёскі бачылі кіно першы раз у жыцьці, і ўражаньне на іх яно зрабіло дужа вялікае.

Праграма фільмаў — выключна навуковая.

### Вечарына Люцынскай Гімназіі.

У суботу 8 сьнежня адбылася вечарына-спэктакль ў Люцынскай Беларускай Гімназіі.

Ставілі: „У Кавалёвай Хаце“ і „Пінская Шляхта“, пад рэжысэрствам вучыцеля Гімназіі С. Казека.

Абедзьве рэчы прайшлі дужа добра і выклікалі задаваленьне публікі.

Пасьля спэктаклю хор гімназіі, пад кіраўніцтвам вучыцеля сьпеваў М. Іванова даў канцэрт беларускіх сьпеваў, спатканыя доўгімі воплескамі.

Матар'яльны даход з вечарыны таксама добры. Валавога даходу 11.059 р. 50 кап., з якіх асталося чыстае карысьці—5.073 р. 50 к.

## Беларусы у Амэрыцы.

(Ад уласнага карэспандэнта).

### Пашырэньне руху.

Са штату Іллінойс, які фактычна стаў асяродкам беларускага руху ў Амэрыцы, самаарганізацыя беларускіх эмігрантаў пашыраецца шырокай хваляй. У першых днях сьнежня дэлегат Я. Варонка выяжджае ў штаты Індыяна (на ўсход) і Вісконсін (на поўнач)—для дакладаў і мітынгаў. На Каляды назначана колькі лекцыяў у Нью-Ирку і Філадэльфіі.

### Нацыянальнае пытаньне у Радавай Расеі і Беларусь.

Другая лекцыя беларускага дзеяча і лектара Я. Варонкі на тэму: „Нацыянальнае пытаньне ў Радавай Расеі і Беларусь“, якая адбылася ў сераду 14-га лістапада сабрала ў залі сходаў Беларускага Народнага Таварыства многалікую аудыторыю беларускіх выхадцаў. Ды і няма дзіва. Багатая эрудыцыя лектара, веда ўсіх галін расейскай палітычнай думкі навейшай эпохі, знаемасьць Я. Варонкі з усімі міжнацыянальнымі ўзаемнаадносінамі народаў Усходняй Эўропы, а таксама яго шматгадовая грамадзянска-палітычная праца на Бацькаўшчыне, даюць яму права аўтарытэтна судзіць аб усіх адбываючыхся здарэньнях і рабіць бязабмылковыя вывады. Паміма гэтага, Я. Варонка прычаровывае аўдыторыю яшчэ тым, што умее знаходзіць у сваіх палітычных праціўнікаў добрыя стораны, ілюструе свае весткі дакумэнтамі і выняткамі з прамоваў і дакладаў важакоў той ці іншай палітычнай партыі. Лекцыя гэта па свайму зьместу закранула цэлы шэраг пытаньняў, як напр.: аб нацыянальнасьці і нацыянальнай праблеме ў наш час наагул, аб розных відах падступу да вырашэньня нацыянальнага пытаньня на захадзе Эўропы, аб лёзунгах Вялікае вайны і Версальскага міру, аб Расейскай рэволюцыі і яе лёзунгу: мір бяз анэксыяў і кантрыбуцый на праве самавызначэньня народаў і г. д. Асаблівую ўвагу лектар зьвярнуў на падступ да вырашэньня нацыянальнага пытаньня расейскай камуністычнай партыяй ува ўсе перыяды яе істнаваньня: Жэнэўскі, Петраградзкі, Маскоўскі, ад першага абвешчаньня Р. С. Ф. С. Р. і да перабудовы Расеі ў С. С. Р. Р. Вялікай навіной для слухачоў зьявілася знаёмства з навейшымі пастановамі Р. К. П. аб беларусізацыі адміністратыўнага апарату ў Беларускай Рэспубліцы, аб абавязковым навучаньні, пачынаючы ад пачатковых і канчаючы Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам, у беларускай мове і ў той самы час барацьба з небеларускімі шавіністамі. Пасьля лекцыі, якая адбывалася каля 2 гадзін, Я. Варонка яшчэ доўгі час адказываў на запытаньні слухачоў, якія выкліканы былі тэзісамі лекцыі, а наастатак сказаў прамову аб значэньні адраджэньня сялянскага беларускага народу, як самага дэмакратычнага ў Эўропе.

Лектар меў вялікі ўсьпех.

**І. Лабенец.**

## Тэатр і мастацтва.

### „Кастусь Каліноўскі“.

Новай п'есе Е. А. Міровіча пачынае шанцаваць усё больш і больш. „Кастусь Каліноўскі“ абяцае стаць драмат. творам, які запануе ў гэтым сэзоне. Ужо тры разы ішла п'еса (2, 3 і 7 лістапада) і ўсе тры разы яна вызывала да сябе вельмі добры і прыхільны інтарэс. Кожны абраз п'есы справаджаецца такімі дружнымі воплескамі публікі, твор вызывае столькі размоў сярод яе, што кожны новы спэктакль п'еса набывае сабе ўсё новых і новых „спрыяючых“.

З боку выпаўненьня трэба адзначыць, што чым далей, тым артысты ўсё больш і больш зладжваюцца ў выкананьні роляў і хаця-ж, відаць, шаноўны аўтар і кіраўнік трупы ўсякі раз штонебудзь палепшвае, то тую, то іншую дэталь „падводзіць“. Але гэта больш з боку тэхнікі сцэны, якія не заўсёды нават і заўважваюцца публікаю, захопленаю зьместам п'есы.

Што датыча самое п'есы, то думкі і ўвагі публікі давялося чуць такія: першы абраз адразу ня вельмі зразумелы публіцы — чаму нейкія два жонды ды ў адным пакоі і т. д. Гаспадар кватэры Лапа добра зрабіў-бы, каб у сваей прамове за мёдам пратлумачыў, што гэта была спроба апошні раз памірыць дзьве ўжо разышоўшыяся часткі ранейшага нібыта цэлага. Чацьвёрты абраз усім падабаецца, ды задоўгі — томіць (баб трэ крыху ўняць!). Пяты абраз — найлепшы па агульнаму судзэньню. Падабаюцца і шосты і сёмы абразы. У турме хацелі-б ад Каліноўскага большага: сцэна гэтая захоплівае, але яна такая, што публіка хацела-б даўжэй астацца з гэроем, якога яна ўжо па п'есе палюбіла, з яго душою, якая цікавіць у сваіх глыбях у такі рашучы мамэнт жыцьця, як перад сьмерцю. Нашая рэвалюцыйная моладзь, асабліва жаночая, так і кажа: „Тут далі-б нам больш ад яго духу! Гэта хоць і патрасае нашыя душы, але які гэта быў-бы сьвяты, абнаўляючы агонь!“

На спэктаклі 7 лістапада (зачынены для членаў прафсаюзаў), калі частка моладзі даведалася, што выведзены на сцэне гэрой — не надуманая аўтарам асоба, а гістарычна-рэальная асоба, баец-рэвалюцыянэр Беларусі 60-х г. г., хацелі пагледзець партрэт яго, але адміністрацыя тэатру чамусьці на гэты раз партрэт зьняла. Мы патрабуем, каб у дні спэктаклю ня толькі вывешваўся партрэт Каліноўскага, але тут-жа на картцы быў кароткі, але выразны (у зьвязку з п'есай) жыцьцеапіс.

Моладзь павінна знаць тых, хто складаў галовы за волю працоўных Беларусі.

**К—а.**

## Курс на грошы.

**Варшава, 4-га Студзеня.**

(Афіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . . | 7.150.000 |
| Фунты штэрл. . . . . . . | 30.700.000 |
| Франкі франц. . . . . . . | 3.36000 |
| Франкі швайц. . . . . . | 1.257000 |
| Франкі бэльгійск. . . . . . | 318000 |
| Ліры італьян. . . . . . . | — — — |
| Польскі злоты . . . . . . . | 1.100.000 |



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла**. Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.